ЛІНІЯ СТАЛІНА

ЯК БІЗНЕС-ПРАЕКТ

СТАР. 4–5



ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

КАРОНА З “ПРЫЧЭПАМ”

НА КОНКУРСЕ ПРЫГАЖОСЦІ

СТАР. 6-7



БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

10.05.12-16.05.12 г.

# НЕ Ў СВАЁЙ ТАЛЕРЦЫ

## Форма прэзідэнцкага паслання была цікавейшая за змест

### ГАДЫ БЯРУЦЬ СВАЁ?

Лукашэнка выглядаў даволі кепска. Нават макіяж не здолеў схаваць вялізныя мяшкі пад вачыма. Было бачна, што гэтым разам кіраўнік Беларусі на імпрэзе, якая звычайна праходзіць, як яго штогадовы бенефіс, пачуваў сябе няўтульна. Мусіць, таму пасланне Лукашэнка агучыў скорагаворкай, амаль без адступленняў ад загадзя падрыхтаванага тэксту, якіх раней было безліч.

У выніку абавязковая праграма скончылася праз дзве гадзіны, што прыкметна менш, чым звычайна. Перад тым, як адказваць на пытанні, Лукашэнка папрасіў прысесці, спасылаючыся на тое, што так зручней пазначаць заўвагі дэпутатаў.

Выглядае, што стаяць кіраўніку Беларусі ў гэты дзень чамусьці было цяжка. Было відавочна, што, сеўшы, Лукашэнка адчуў сябе значна лепш. Гады бяруць сваё?..

Яшчэ праз паўтары гадзіны старшыня Савета Рэспублікі Анатоль Рубінаў быў вымушаны спыніць паток пытанняў ад дэпутатаў. “Нам вас шкада”, — сказаў ён Лукашэнку.

Не абышлося без ляпаў, якія рэгулярна выдае кіраўнік Беларусі. Гэтым разам ён не адправіў Скарыну ў Піцер, але скарыстаў цытату з Фёдара Дастаеўскага: “Няма для чалавека нічога больш невыноснага за свабоду”.

Словы гэтыя, аднак, належаць персанажу Івану Карамазаву, які ўспрымаецца як увасабленне зла. Цалкам цытату прывяла журналістка “Народнай волі” Святлана Калінкіна. Іван Карамазаў пераказвае брату Алёшу сваю паэму “Легенда пра Вялікага Інквізітара”.




*Ізноў “нахіліць”…*

> “Але ў грамадстве пакрысе нарастае стома. Стома ад бясконцых “часовых цяжкасцей”. Стома ад адсутнасці перспектываў”.

Апошні па сюжэце пераконвае Хрыста: “Ты хочешь идти в мир и идешь с голыми руками, с каким-то обетом свободы, которого они, в простоте своей и в прирожденном бесчинстве своем, не могут и осмыслить, которого боятся они и страшатся, ибо никогда и ничего не было для человека и для человеческого общества невыносимее свободы ! А видишь ли сии камни в этой нагой и раскаленной пустыне? Обрати их в хлебы, и за тобой побежит человечество, как стадо, благодарное и послушное, хотя и вечно трепещущее, что Ты отымешь руку Свою и прекратятся им хлебы Твои. Но ты не захотел лишить человека свободы и отверг предложение: ибо какая же свобода, рассудил Ты, если послушание куплено хлебами. Ты возразил, что человек жив не единым хлебом: но знаешь ли, что во имя этого самого хлеба земного и восстанет на Тебя Дух Земли, и сразится с Тобою, и победит Тебя, и все пойдут за ним, восклицая: «Кто подобен Зверю сему, — он дал нам огонь с небеси!"

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

# КНІЖКУ БАРАДУЛІНА СПРАБАВАЛІ ПАРВАЦЬ

**Пабачыць кнігу-споведзь Народнага паэта прыйшлі каля 50 чалавек, піша “Наша ніва”.**

«Нам трэба было ладзіць імпрэзу на ганку», — такімі словамі пачаў паэт Міхась Скобла прэзентацыю кнігі Сяргея Шапрана «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Самнасам з Барадуліным», якая выйшла ў серыі «Кнігарня «Наша Ніва». Сабралася каля 50 чалавек — колькі змагло ўмясціць невялікае памяшканне мінскай кнігарні «Логвінаў». Нават «імяніннік» — Сяргей Шапран — сціпла стаяў, саступіўшы месца камусьці з гасцей.

На імпрэзе былі госці чаканыя і нечаканыя. Пра Барадуліна казалі яго сябры Генадзь Бураўкін і Уладзімір Някляеў.

«Шапран на роўных гаварыў з Барадуліным», — заўважыў Генадзь Бураўкін, даўні сябра-аднакашнік дзядзькі Рыгора. Ён прызнаўся, што, прачытаўшы кнігу, наноў адкрыў для сябе некаторыя эпізоды барадулінскай біяграфіі. Спадар Генадзь панаракаў, што кніга склееная, а не сшытая, а значыць больш уразлівая да перагортванняў і перагінанняў. У абарону выдаўцоў выступіў Міхась Скобла, які паспрабаваў кніжку жартам парваць, каб даказаць яе якасць. Яго спынілі.

# ШТО СТАРЫ НОВЫ ПУЦІН НАМ РЫХТУЕ?

**Аспрэчваць значны ўплыў на ўсе сферы нашага жыцця расійскага фактара бессэнсоўна. Больш за тое, для ўсіх нас вельмі важна, як стары новы прэзідэнт Пуцін будзе паводзіць сябе ў адносінах да Беларусі пасля сваёй інаўгурацыі. Пра мадэлі паводзін "пуцінскай Расіі" ў адносінах да нашай краіны — чарговае апытанне "Тут і цяпер".**



*Як бы пад ЕЭПам не пахаваць уласную незалежнасць*

### КІРЫЛ КОКТЫШ, ПАЛІТОЛАГ (МАСКВА):
## "ЭКАНАМІЧНАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ БУДЗЕ ПАГЛЫБЛЯЦЦА".

— Варта чакаць працягу раней абвешчаных праектаў. Пуцін цалкам прадказальны. Гэта будзе той жа курс на нейкую прагматызацыю адносін, які пачаўся ў 2003 годзе. Ён завяршыўся нафта-газавым канфліктам, бо высветлілася, што Беларусь зусім не гатова ўзаемадзейнічаць з Расіяй на тых эканамічных умовах, якія з'яўляюцца канькам Пуціна. Зараз будзе працягвацца Еўразійскі праект. Гэта будзе даволі шчыльная і досыць настойлівая інтэграцыя Беларусі. А мэта Еўразійскага саюза відавочная — забеспячэнне хуткаснага транзіту з Азіі ў Еўропу. Таму ў наступныя два гады будзе будавацца калідор, які возьме на сябе транзіт азіяцкіх грузаў у Еўрапейскі Саюз. Наўрад ці гэта будзе нейкая шчыльная палітычная інтэграцыя, аднак на гаспадарчым узроўні шанц спрацаваць у яе ёсць. Хоць шанс не такі ўжо і вялікі, бо крызіс у Еўропе будзе памяншаць яе спажывецкую здольнасць спажываць. Таму разлікі крыху завышаныя. Але нейкі эканамічны эфект, канечне, будзе. Што тычыцца "Пуціна як збіральніка земляў", то прыкмет гэтага няма. Сучасныя расійскія эліты слабыя ў ідэалагічным вымярэнні. У іх пераважае эканамічнае мысленне. Таксама трэба ўлічваць, што Беларусь зусім не здольна абслугоўваць тыя крэдыты, якія мае. І відавочна, што "беларускага фамільнага срэбра" не хопіць нават для таго, каб пакрыць тыя пазыкі, якія Беларусь ужо ўзяла.

**ДА ВЕДАМА**

## ЯШЧЭ АДЗІН "ВЯЛІКІ" ХАКЕІСТ"

Каманда аматараў хакея з ўдзелам Уладзіміра Пуціна сустрэлася са зборнай ветэранаў расійскага хакея. Яшчэ два гады таму Пуцін не ўмеў стаяць на каньках, але ў дзень інаўгурацыі асабіста забіў шайбу на першай жа хвіліне пасля выхаду на лёд. Яго каманда перамагла 6:5, паведамляе «Российская газета».

Пуцін гуляў толькі ў чацвёртым перыядзе.

У яго камандзе выступалі і дзяўчаты-хакеісткі. З трыбун Пуціна падтрымлівалі яго сябры — былы прэм'ер Італіі Сільвія Берлусконі і экс-канцлер Германіі Герхард Шродар.

У камандзе легенд выступаў губернатар Маскоўскай вобласці Сяргей Шайгу, а таксама хакейныя чэмпіёны Вячаслаў Фяцісаў і Аляксандр Якушаў.

Пасля заканчэння матча была арганізавана серыя булітаў, у якой прэзідэнт Расіі забіў вырашальную шостую шайбу.

«Сёння Расія здабыла старога новага прэзідэнта», — сказаў вядучы матча падчас цырымоніі ўзнагароджання.

На тэрыторыі былога Савецкага Саюза адным "вялікім" хакеістам стала больш. Першы — Аляксандр Лукашэнка — ужо даўно выйграе са сваёй камандай усе матчы запар, нягледзячы на тое, які перад ім праціўнік.

### ТАЦЦЯНА МАНЁНАК, ЭКАНАМІЧНЫ АГЛЯДАЛЬНІК ГАЗЕТЫ "БЕЛАРУСЫ І РЫНАК":
## "БЕЛАРУСЬ НЕ ГАТОВАЯ ДА СГА".

— Мы былі сведкамі таго, як змяніліся адносіны таго ж Пуціна да Лукашэнкі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі 2010 года. Гэта сведчанне альбо новых прыярытэтаў, альбо нейкай новай стратэгіі Расійскай Федэрацыі. Больш прыярытэтным для Расіі становіцца Еўразійскі інтэграцыйны праект. Яна жадае быць стрыжнем, для таго каб прыцягнуць да сябе краіны постсавецкай прасторы. Для Расіі ў гэтай сітуацыі самае галоўнае — прыцягнуць да сябе Украіну. І нейкіх цвёрдых рухаў у бок Беларусі я не чакаю ў найбліжэйшы час. Мяне больш хвалюе, што будзе з Расіяй, калі яна ўступіць у Сусветную Гандлёвую Арганізацыю. Справа ў тым, што краіны "мытнай тройкі" згадзіліся на тое, што правілы гульні, якія Расія вытаргавала ў СГА, будуць распаўсюджаны і на Беларусь. Гэта азначае, што наша краіна апынецца ў сферы дзеянняў правілаў СГА. Праз тры месяцы Расія павінна ратыфікаваць пагадненні аб уступленні ў СГА, і неўзабаве Беларусь адчуе на сябе новыя правілы гульні. І як у гэтай сітуацыі будзе паводзіць сябе кіраўніцтва Расіі? Беларуская ж эканоміка не падрыхтавана да новай сітуацыі. Як будзе дзейнічаць тая ж "тройка"? Ці будзе дадзены Беларусі нейкі тэрмін на адаптацыю?

### СВЯТЛАНА ПАТАПАВА, ПРАДПРЫМАЛЬНІЦА:
## "РАСІЙСКІ ПРАСТОЛ ЯК МАТРОШКА".

— Ужо ў самім гэтым пытанні Беларусь праглядваецца як вечная ахвяра. Чаго чакаць?! А калі б гэта быў Іваноў ці Мядзведзеў, а не Пуцін, чакаць трэба было б нечага іншага? Расійскі прастол — як матрошка: каго ні вымеш, сутнасць ва ўсіх будзе аднолькавая. А Беларусь усё гадае, што ёй рыхтуе Пуцін. А што нам рыхтуе новы французскі прэзідэнт? Беларусі б разабрацца ў тым, што яна рыхтуе сама для сябе. З боку Расіі ўсё будзе так, як і было. Нічога не мяняецца ад нулявых гадоў. Хопіць нам ужо чакаць, што хтосьці нам нешта падрыхтуе: ці то грошай кучу, ці то танны газ. Пара б ужо на 21-м годзе незалежнасці спадзявацца на сябе. Такім чынам, Пуцін рыхтуе нам пазбаўленне ад ілюзій.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# НЕ Ў СВАЁЙ ТАЛЕРЦЫ

## БОЛЬШ, ЧЫМ ВАРТА БЫЛО

Цяжка западозрыць Лукашэнку ў тым, што ён чытаў Дастаеўскага. Хутчэй за ўсё, цытату, дзякуючы якой кіраўнік Беларусі паставіў сябе ў адзін шэраг з Вялікім Інквізітарам, прапанавалі прэзідэнцкія спічрайтары. Аднак у любым разе атрымалася сімвалічна.

Усё астатняе — амаль цалкам шалупінне і пыл. Шматкроць паўтораныя абяцанні, якія не выконваюцца; спасылкі на сусветны крызіс як прычыну нашых "асобных недахопаў"; заявы аб тым, што беларусы нібыта і так жывуць не горш за астатніх; заклікі да мадэрнізацыі, інавацый, інвестыцый.

Сапраўды, цяжка сказаць нешта новае, калі ты ўжо 18 год кіруеш краінай і галоўная твая задача — захаваць статус-кво. Вось і даводзіцца хадзіць па крузе, спадзяючыся, што ўсе ўжо забыліся на папярэднія заявы. Большасць, сапраўды, ківае галовамі, але...

Але ў грамадстве пакрысе нарастае стома. Стома ад бясконцых "часовых цяжкасцей". Стома ад адсутнасці перспектыў. Стома ад чалавека, які затрымаўся на сваёй пасадзе значна больш, чым варта было. Магчыма, таму Лукашэнка і пачувае сябе не ў сваёй талерцы.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# АД КАГО ЗАЛЕЖНЫЯ СУДДЗІ

"Усімі пытаннямі кіруюць старшыні судоў, кіраўнікі судовай сістэмы, а імі — Адміністрацыя прэзідэнта", піша "Наша Ніва".

Аляксандр Дзядок адпрацаваў у судовай сістэме 18 гадоў. Так супала, што калі ён выйшаў у адстаўку, на лаве падсудных апынуўся яго сын Мікалай, якога арыштавалі па так званай справе мінскіх анархістаў. Праваабаронцамі ён прызнаны палітвязнем. Аляксандр расказаў «Нашай Ніве» пра некаторыя асаблівасці беларускага суда і пра справу свайго сына.

Аляксандр Дзядок узначальвае аддзел па юрыдычнай і кадравай рабоце аднаго з упраўленняў «Белтрансгазу». Працаваў следчым, пракурорам Брагінскага раёна, юрысконсультам, старшынёй раённага суда Гомеля, суддзёй крымінальнай калегіі Мінскага абласнога суда.


*А суддзі хто?*

**– У канцы 2009-га Вы сышлі ў адстаўку па выслузе гадоў з пасады суддзі крымінальнай калегіі Мінскага абласнога суда. Чаму не хацелі працаваць далей?**

– Мне заўсёды падабалася мая праца. Але суддзі абсалютна перасталі быць самастойнымі і выконваюць толькі загады. Даходзіла да абсурду: суддзя з кіраўніком узгадняў (і гэта нонсэнс!) не толькі артыкул Крымінальнага кодэкса, па якім судзіць чалавека, але і пакаранне.

Суддзі баяцца прымаць самастойныя рашэнні. За апошнія гады іх адвучылі гэта рабіць. Усімі пытаннямі кіруюць старшыні судоў, кіраўнікі судовай сістэмы, а імі — Адміністрацыя прэзідэнта. Чым больш я гэта разумеў, тым больш мне не хацелася быць марыянеткай у нечых руках.

**– Боязь самастойна прымаць рашэнні прыйшла разам з палітычнымі працэсамі?**

– Гэта тычыцца амаль усіх спраў, не толькі палітычных.

**– У Вашай практыцы суддзяў здымалі за «няправільна» прынятыя рашэнні?**

– Не магу прыгадаць. Калі суддзя нешта рабіў не так, як хацела кіраўніцтва, то «разумныя» начальнікі ніколі не дзейнічалі груба і наўпрост — маўляў, ты нас не паслухаўся, і мы цябе здымаем. Усё робіцца нашмат танчэй: на суддзю пачынаюць ціснуць. Суддзя ж таксама чалавек, таму чакаюць, пакуль ён зробіць памылку альбо плюне і сыдзе сам.

**– Намеснік старшыні Следчага камітэта Андрэй Швед заявіў, што летась вырасла колькасць апраўдальных прысудаў — з 217 да 382. Пра што гэта сведчыць?**

– Са свайго вопыту магу сказаць, што статыстыка ўвогуле можа быць двухбакова вострай. Мяркуючы па стане нашай судовай сістэмы, цяжка паверыць, што колькасць апраўдальных прысудаў павялічылася. Гэта, хутчэй за ўсё, ведамасная гульня са статыстыкай спадара Шведа і іншых кіраўнікоў следчых падраздзяленняў. А іх у нас цяпер толькі два — падраздзяленне ў КДБ і Следчы камітэт. І гэтая гульня, магчыма, вядзецца для таго, каб прадэманстраваць сваю дзейнасць кіраўніцтву краіны. Але гэта не сведчыць пра ўзмацненне ролі права-суддзя ў Беларусі. Кожны такі апраўдальны прысуд так і ці інакш узгадняецца на розных узроўнях, і не толькі судовых.

**– Што думаеце пра справу Вашага сына як былы суддзя?**

– Гэта адно звяно з ланцуга крымінальна-палітычных спраў. Гэтая справа сведчыць аб прэвентыўнай зачыстцы грамадска-палітычнага поля. Разам з Мікалаем арыштоўвалі вялікую групу маладых людзей розных палітычных арыентацый. Ні прамых, ні ўскосных доказаў віны майго сына не было. Асноўнымі былі сведчанні двух маладых людзей. Аднаго з іх у судзе не дапыталі (яго нібыта не знайшлі, для таго каб выклікаць), таму зачыталіся яго паказанні з папярэдняга следства. У той жа час, калі трэба было затрымаць Ігара Аліневіча, правялі аперацыю спецслужбаў з яго захопам у Маскве і вывазам у Беларусь. А другі сведка на працэсе заявіў пра ціск з боку супрацоўнікаў КДБ і МУС, пад якім ён агаварыў майго сына.

**– Тым не менш Мікалаю далі не самы маленькі тэрмін…**

– Прысуд празмерна суровы. Сына абвінавацілі па ч. 2 арт. 339 Крымінальнага кодэкса (злоснае хуліганства). Даволі аб'ёмны артыкул, які змяшчае мноства кваліфікацыйных прыкмет. У маёй практыцы не было выпадкаў, каб чалавека па гэтым артыкуле асудзілі на пазбаўленне волі, калі не пацярпелі людзі. Прычына, лічу, адна — сын не прызнаў сваю віну. А тыя, хто агаварыў яго, зусім не трапілі на лаву падсудных, хаця і прызнавалі, што ўдзельнічалі ў тых эпізодах.

**СЯРГЕЙ МАКАРЭВІЧ**

# ЛІНІЯ СТАЛІНА ЯК БІЗНЕС-ТЫ

9 мая на Вайсковых могілках Мінска адбылося ўскладанне кветак да магіл загінуўшых салдат і жалобны мітынг. Іграў ваенны аркестр! Акцыя прайшла з дазволу Мінскага гарвыканкама, яна была ўзгоднена з усімі ведамствамі. Ідэйны натхняльнік акцыі ...вядомы генерал Валерый Фралоў.




*Перамогу цяпер скарыстоўваюць як каму пажадаецца*

**"Тут і цяпер"** падрабязна распытала генерала не толькі аб мерапрыемстве з нагоды Дня Перамогі.

**— Валерый Дзмітрыевіч, калі не памыляюся, заяўку на правядзенне мерапрыемства падавалі не Вы, а старшыня рэспубліканскай арганізацыі інвалідаў вайны ў Афганістане Левінсон...**

— Так, я не хацеў свяціцца, каб на пустым месцы не ўзнікала праблем з-за маёй персоны. Таму я сустрэўся з палкоўнікам Левінсонам, ён падтрымаў маю ідэю, і мы заняліся справай. Разумееце, звычайна ў Дзень Перамогі, за які аддалі жыцці мільёны нашых продкаў, мы па добрай традыцыі ўскладаем кветкі да стэлы на плошчы Перамогі. Святое месца... Аднак у 500 метрах ад плошчы, на Вайсковых могілках, пахавана каля 900 чалавек: радавыя, афіцэры, генералы, партызаны, якія аддалі свае жыцці ў імя перамогі. Было б па-хрысціянску, паважаючы іх памяць, ускласці на іх магілы кветкі, памянуць іх светлыя імёны ў царкве Аляксандра Неўскага, што знаходзіцца на тэрыторыі могілак.

> “Гэта надавала святам своеасаблівую адметнасць — у рэгіёнах ж няма такіх парадаў, як у Мінску ці Маскве, таму такія мерапрыемствы праходзяць на "ўра". Так што можна абысціся і без будаўніцтва "ліній Сталіна" і іншых дарагіх аб'ектаў”.

Я неяк быў на гэтых могілках, паглядзеў на магілы без кветак і вырашыў, што было б няправільна ў такі дзень пакідаць іх без увагі. Мне здаецца, нельга забываць людзей, якія рэальна ваявалі за нашу свабоду.

Я некалькі разоў бываў на Востраве слёз, дзе звычайна збіраюцца афганцы. І атмасфера там мне вельмі спадабалася — проста хараство! Таму я і падумаў: а чаму ж мы гэтак жа душэўна не можам ушанаваць памяць франтавікоў? Шматлікія мерапрыемствы праходзяць у нейкіх казённых сценах, а на тых могілках — людзі, жывая гісторыя...

**— У ваеннага люду ідэя хутка знайшла водгук?**

— Вы ведаеце, так. Думаю, збярэцца чалавек 150—200. Мне здаецца, што прыйдуць не толькі вайскоўцы, але і цывільныя. Не ўсе ж у нас, у рэшце рэшт, страцілі сумленне. Ды і купіць пару кветачак... Хіба па цяперашнім часе гэта вялікія грошы? Зато на душы лягчэй будзе...

**— А на афіцыйныя мерапрыемствы з нагоды Дня Перамогі вы хадзілі?**

— Ісці ў калоне — досыць вялікая нагрузка, а я ўжо немалады. А вось каля стэлы стаяў "жалезна". Мне хлопцы распавядалі, што ў мінулым годзе ветэраны сабраліся, Аляксандр Рыгоравіч прыехаў, ахова кагосьці адціснула. Таму чаго там піхацца? Прыйдзі сам на могілкі, да стэлы, пакладзі кветачку, пастой над магілай. Напэўна, гэта разумна.

**— Як на Вашу думку, у нашай краіне дастаткова ўвагі ўдзяляюць ветэранам? Ці ўспамінаюць пра іх толькі напярэдадні 9 Мая?**

— Мо гэта і няправільна, але кожны дзень, напэўна, не наўзгадваешся. Самае галоўнае для дзяржавы — каб ветэраны маглі годна жыць, каб мелі нармальную пенсію, ні ў чым не ведалі патрэбы. Не абавязкова, каб улада іх увесь час збірала: яны могуць і самі нешта арганізаваць. Дарэчы, я ведаю, што многія рэгулярна прыходзяць у школы, распавядаюць пра вайну.

Дзень Перамогі ў нас адзначаецца "інтэнсіўна", але ёсць і іншыя святы: Дзень авіяцыі, артылерыі, ракетных і бранятанкавых войскаў, дэсантнікаў, танкістаў. І ў кожным родзе войскаў ёсць свае ветэраны, якіх, я лічу, таксама трэба адзначаць і падтрымліваць. І так робіцца. Таму мне здаецца, што ў нашай краіне ветэраны не забыты.

**— Ці не падаецца Вам, што свята 9 Мая стала нейкім занадта афіцыйным, фармалізаваным? І для моладзі яно... ну, сумнае, ці што. Як зрабіць так, каб гэтае свята ў будучыні не растварылася?**

— Пампезнасць гэтаму святу ўлада стварае нармальную. Думаю, у найбліжэйшыя гады з календара яно дакладна не знікне. Ва ўсякім выпадку, вельмі хацелася б на гэта спадзявацца. Я лічу, такія святы павінны быць і шырока адзначацца.

**— У Расіі перыядычна кажуць аб тым, што народ ведае далёка не ўсю праўду пра вайну. А ў беларускім ваенным мінулым, на Вашу думку, ці шмат яшчэ засталося белых плям?**

— Дастаткова. Перамога дасталася нам занадта дарагой цаной. І яшчэ не ўсё вядома пра вайну. Заўважце, па-

# ПРАЕКТ

сля вайны 20 гадоў Дзень Перамогі не святкавалі — першае свята адбылося толькі ў 1965 годзе. Таму што людзям, якія ўдзельнічалі ў вайне, успамінаць усё гэта было вельмі балюча... А моладзь павінна памятаць. І ведаць.

**— А як вы ставіцеся да такіх ваенных праектаў, як "Лінія Сталіна"? Патрэбны яны нам, па вялікім рахунку, ці не?**

— На мой погляд, гэта чыста прапагандысцкі, ці нават бізнес-праект. На самай справе, "Лінія Сталіна" ніякай ролі ў вайне, а тым больш у Беларусі, не адыграла. Гэта проста нейкі фэтыш — нібыта ў выхаваўчых мэтах. Я ні разу там не быў, шчыра кажучы, толькі праязджаў міма. І жадання паехаць туды ў мяне не ўзнікала...

На самай справе, "Лінія Сталіна" ніякай ролі ў вайне, а тым больш у Беларусі, не адыграла.

Я вось у Гродне, калі служыў там, каля Кургана славы паставіў некалькі танкаў і гляджу, што цяпер там цудоўная алея атрымалася! Хтосьці ўжо пасля мяне там самалёты паставіў і штук 15 адзінак іншай тэхнікі. Шчыра кажучы, ганаруся гэтым. І яшчэ каля некаторых гарадоў я танкі ставіў. Там цяпер пацаны лазяць, людзі туды прыходзяць падчас свят. У свой час на галоўную плошчу Гродна я прыганяў тэхніку на Дзень вызвалення горада і Дзень Перамогі. Такім чынам, калі хочаце, прывіваў любоў да Радзімы, ратнай працы і салдацкай прафесіі. Людзям падабалася. На тэхніку шмат хто мог не толькі паглядзець, але і памацаць, салдат пра нешта заўсёды пыталіся. Гэта надавала святам своеасаблівую адметнасць — у рэгіёнах ж няма такіх парадаў, як у Мінску ці Маскве, таму такія мерапрыемствы праходзяць на "ўра". Так што можна абысціся і без будаўніцтва "ліній Сталіна" і іншых дарагіх аб'ектаў.

**— Звычайна на вялікія святы ў інстытуты і іншыя арганізацыі прыходзіць разнарадка — даслаць столькіта чалавек. І многія людзі ідуць туды з вялікім нежаданнем...**

— Я лічу так: замест таго, каб піва ці гарэлку папіваць, схадзі лепш на мерапрыемства, паглядзі, як арганізавана, паслухай, што кажуць, і зрабі свае высновы. Таму што многія мяркуюць аб досыць важных рэчах, не падымаючыся з канапы, а гэта, на мой погляд, адпачатку няправільна.

**МАРЫНА МІТ**

Мікалай Царкоў, непаўналетні палоннік блакаднага Ленінграда, які даўно пераехаў з Расіі у Чэрыкаў і шмат гадоў адпрацаваў тут настаўнікам, а цяпер супрацоўнічае з крычаўскай недзяржаўнай газетай "Вольны горад", не-не ды спяшаецца ў свабодны дзень з кветкамі ў вёску Камаровічы.




# ФАНФАРНАЕ ШАНАВАННЕ

## НА ФАНФАРЫ І ПАРАДЫ СРОДКАЎ СТАЕ

Там ён ідзе або да магілы, дзе пахаваны невядомыя салдаты, або да Памятнага знака з пералікам імён (усяго 134 прозвішчы) тых беларусаў — жыхароў навакольных вёсак, якія не вярнуліся з Вялікай Айчыннай.

Мемарыял у вёсцы Камаровічы быў устаноўлены ў сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Раней, да чарнобыльскай бяды, тут знаходзіўся цэнтр калгаса "Краіна Саветаў", потым вырашылі ўсталяваць стэлу з вечным агнём пад ёй у знак павагі да землякоў, якія загінулі за Радзіму. На мемарыяле з'явілася і прозвішча Героя Савецкага Саюза Піліпа Кавалёва, бо лічылася, што ён тут пахаваны. Паводле ж сцвярджэнняў мясцовых краязнаўцаў, Піліп Кавалёў пахаваны ў гарадскім пасёлку Круглае Магілёўскай вобласці, дзе ён загінуў у 1944 годзе… Але людзі прыходзілі да мемарыяла на працягу многіх гадоў, для таго каб ушанаваць памяць усіх 134 землякоў.

А дваццаць пяць гадоў назад гэтыя вёскі Чэрыкаўскага раёна пасля Чарнобыльскай аварыі патрапілі ў зону адсялення. Ці не ад таго самага часу і пачалі забываць пра помнік. Ён асыпаўся каменьчык за каменьчыкам… Людзі адсюль пастунова з'язджалі, кідаючы дамы і гаспадарку. Вёска Камаровічы таксама апусцела і цяпер сама нагадвае ці то брацкую магілу, ці то памятны знак таму часу. Паклапаціцца пра ваенны знак памяці не было каму, вось толькі Мікалай Царкоў наведваецца сюды са сваімі сябрамі і калегамі па "Вольным горадзе", і не толькі для таго, каб памаўчаць-падумаць, але і для таго, каб нагадаць грамадству і ўладзе, што такія помнікі не павінны даводзіцца да занядбанага стану...

Мо і не варта здзіўляцца таму, што вайна і народны подзвіг сёння ўзгадваюцца, напэўна, толькі падчас ваенных парадаў у юбілеі Перамогі, на якіх усё менш прысутнічае ўдзельнікаў і сведак тых часоў і да якіх — жывых і мёртвых — усё менш праяўляецца увагі, павагі і ўдзячнасці. Апошняе цяпер усё часцей адрасуецца ўладзе. На фанфары і парады сродкаў стае, а на клопат аб ветэранах і захаванне памятных месцаў і знакаў у належным стане — не…

**ВІКТАР ВОЙТ**

**КАМЕНТАР ЗАЦІКАЎЛЕНАЙ АСОБЫ**

**МІКАЛАЙ ЦАРКОЎ:**

— Напярэдадні Дня Перамогі, ад імя райвыканкама і сацыяльнай службы чэрыкаўскія ветэраны вайны, да якіх далучаны, як вядома, і малалетнія вязні канцлагераў і малалетнія блакаднікі, атрымалі віншаванне і матэрыяльны падарунак — у прыгожа аформленым пакунку аказалася пара ручнічкоў. Ну што ж, як гаворыцца, і на тым дзякуй. Знаю, што расійскія блакаднікі атрымліваюць падвоеную пенсію. У мяне ж, паколькі я даўно жыву ў Беларусі, надбаўкі няма. Нязначная, здаецца, усё ж ёсць, але такая, што я яе нават не заўважаю. Праўда, і не скарджуся, проста канстатую факт. Мне ў блакаду было 8 гадкоў. Дарослыя альбо ваявалі, альбо суткамі працавалі на заводах. Мы, дзеці і падлеткі, былі прадастаўлены самі сабе. Жылі, як памятаю, тымі ж франтавымі весткамі, што і дарослыя, удзельнічалі ў нейкіх штодзённых справах, натуральных для ваеннага часу. Напрыклад, мы збіралі для шпіталяў шчаўе і лебяду. Зразумейце, як пры гэтым самім хацелася есці, але ж мы разумелі, што параненым салдатам гэта патрэбна больш, чым нам. Увогуле, я ўзгадваю, што жылі мы па нейкім няпісаным кодэксе маралі і гонару. Сачылі за зводкамі з фронту, будавалі сваё жыццё па правілах братэрства і справядлівасці. Падлеткі ёсць падлеткі: здараліся сутычкі, але ляжачых, паводле строгіх правілаў, як кажуць, не білі. Горка ўсведамляць, што сёння ў моладзевым асяроддзі няма прыстойнай этыкі, няма свайго кодэксу гонару. Ды і ведае моладзь пра Другую Сусветную і Вялікую Айчынную зусім няшмат. Я даўно не бываў у школах, але думаю, што вучням там недастаткова даюць інфармацыі пра тыя часы. Вось на ваенны парад, на мітынг, на ўскладанне кветак раз на год іх накіроўваюць, а значнасці народнага подзвігу яны, па маіх назіраннях, не разумеюць...

# КАРОНА З "ПРЫЧЭПАМ"

Калі шараговыя гледачы, якіх цікавілі выбары новай красы ўсяе Беларусі, спакойна ўключылі "скрыні" а дзявятай вечара 5 мая, то журналісты "пасвіліся" на фінальным шоу з 17:00 і паспелі ўгледзець шмат чаго цікавага "не для шырокай публікі".




*Конкурсы прыгажосці як лакмусавая паперка грамадства*

## ЖЭСЦЬ ЯК ЯНА ЁСЦЬ

Тэлеканал АНТ, а менавіта ён ужо трэці раз запар ладзіць усебеларускія пошукі "спартсменак, камсамолак і проста прыгажунь", сёлета відавочна вырашыў сэканоміць на ўсім.

Па-першае, на забаўляльнай частцы: арганізатары не запрасілі не тое што расійскіх, але і хоць бы сярэдненькіх беларускіх "зорак", абмежаваўшыся сіламі (і разам з тым піярам) пераможцаў уласных тэлепраектаў — "Акадэміі талентаў" і дзіцячага "Я спяваю". І калі дзяцей упікнуць няма чым — яны не толькі шчыра стараліся, але і раз-пораз няблага "заводзілі" залу, — то гламурным гадаванцам айчынных прадзюсараў, што заблыталіся ў "фанеры" і словах песень, так і карцела падкруціць рэгулятар гучнасці на максімум.

Па-другое, на ўборах канкурсантак: значная частка сукенак для першага дэфіле пад "Вальс кветак" Штраўса нагадвала танныя пластыкавыя кветкі на, прабачце, могілках; "этнічныя касцюмы" былі як быццам закуплены оптам у краме штор, а ўжо з "крэатыўных" шлейфаў з паветраных шарыкаў, якія "ўпрыгожвалі" некаторых удзельніц падчас дэфіле ў купальніках, не смяяўся толькі лянівы. А калі ўбор усё-такі пасаваў дзяўчыне, то ўсё ўражанне псавала работа грымёраў: шчодры слой касметыкі дабаўляў стомленым дзяўчатам кругі пад вачыма і лішнія гады (нядзіўна, што маладыя людзі ў зале перыядычна здзіўляліся гучным шэптам: "Дык яны ж усе страшныя!").

Нарэшце, арганізатары вырашылі не шыкаваць з прызамі: пераможцы, як і 2 гады назад, атрымлівалі 50 мільёнаў беларускіх рублёў, а першая і другая віцэ-міс — 20 і 10 адпаведна (каго хвалюе інфляцыя?). Хоць, між іншым, за некаторыя выпрабаванні ў працэсе конкурсу кожнай з 28 фіналістак варта было б малачка наліць за шкоднасць, а то і сеансам у СПА кампенсаваць. Адзін з такіх іспытаў (падгонка дзяўчат пад трафарэты з беларускімі "зоркамі"), яскрава праілюстраваны ў блогу фатографа Яўгена Краснавока, калегі аднадушна ацанілі як "жэрсць".

## ПУШЧАЦЬ НЕЛЬГА СТАЯЦЬ

Хоць "рэалізатары білетаў з" Палаца спорту і АНТшнікі ў адзін голас запэўнівалі, што квіткі на шоу коштам ад 20 да 80 тысяч беларускіх рублёў амаль распрададзены, складвалася зусім іншае ўражанне — здавалася, пазвалі ўсіх, каго маглі: у ложы — тэлевізіёншчыкаў і артыстаў, паблізу VIP-зоны — высокіх чыноўнікаў (сярод апошніх былі заўважаны мэр Мінска Мікалай Ладуцька, міністр культуры Павел Латушка, старшыня канцэрна "Амкадор" сенатар Аляксандр Шакуцін ды іншыя), у партэр пад самай сцэнай — правераныя "групы падтрымкі" з Акадэміі кіравання пры прэзідэнце і БРСМаўцаў з рэгіёнаў у align="" рознакаляровых майках. Зялёныя "майкі" пасадзілі ідэалагічна вытрымана — зразумела, побач з чырвонымі.

Усіх астатніх, што былі прагнаны праз дагляд рэчаў і рамкі з металадэтэктарамі, запусцілі на трыбуны бліжэй да пачатку шоу. Зрэшты, у сектары А і Б трапіць было не так проста — на лесвіцы стаяў чалавек з навушнікам у вуху і катэгарычна папярэджваў: "Сюды нельга, ідзіце ў абыход". Тым жа, хто меў неасцярожнасць спазніцца, не пашанцавала — іх пад распараджэнне па рацыі ("зачыстка па перыметры") сагналі ўсіх у мужчынскую прыбіральню (!), пакуль у палац праходзіў і займаў свае месца ў зале самы галоўны глядач. Прадстаўнікоў СМІ служба аховы з яхіднымі ўсмешкамі загадзя папярэдзіла, што фатаграфаваць прэзідэнта могуць толькі "спецыяльна навучаныя" людзі з прэзідэнцкага пулу; ва ўсіх астатніх, чый аб'ектыў хаця б павернецца ў забаронены бок, будуць выдалены ўсе здымкі, а то і канфіскавана тэхніка.

Справядлівасці дзеля заўважым, што сыход першай асобы з залы прайшоў куды менш напружана — публіку ахова затрымала ўсяго на 5 хвілін. А з даху будынка, даўшы прашмыгнуць у бар эстрадна-чыноўніцкаму бамонду і ветліва дачакаўшыся, пакуль звычайныя людзі з кветкамі, сцяжкамі і шарыкамі высыплюць на вуліцу чакаць дзяўчат (не пераможцаў, але ўсё адно прыгажунь), па адным разыходзіліся снайперы з чахламі, падобныя на заблукаўшых у горадзе турыстаў-гітарыстаў.

## БАЦЬКОЎСКІ КЛОПАТ АЛЯКСАНДРА РЫГОРАВІЧА

Хто і як выбіраў галоўную прыгажуню Беларусі, засталося да канца незра-

зумелым. Адзначым некалькі істотных, на наш погляд, момантаў. Прыкладам, старшыня журы — кіраўнік АНТ Рыгор Кісель — назіраў за шоу чамусьці не ў судзейскай калегіі, а ў прэзідэнцкай ложы. Фінальнае шоу, якое мусіла доўжыцца дзве з паловай гадзіны, загадкава "сціснулася" амаль да 1,5 гадзіны, а з праграмы знік абяцаны (і абавязковы, скажам, для міжнародных конкурсаў прыгажосці) тур — інтэрв'ю і адказы ўдзельніц на пытанні. Хоць яшчэ пару дзён назад на сайце тэлеканала АНТ прымаліся пытанні ад гледачоў з абяцаннем, што найбольш цікавыя з іх прагучаць са сцэны Палаца спорту. Нарэшце, многіх уразіла выступленне Юрыя Брэўса, рэжысёра-пастаноўшчыка "Міс Беларусь-1998", які адкрыта заявіў: "Сёлета мы ўвесь час адчувалі бацькоўскі клопат Аляксандра Рыгоравіча...".

Зрэшты, наўрад ці хто паспрачаецца, што "Міс Беларусь-2012" — 20-гадовая студэнтка Юлія Скалковіч, ураджэнка вёскі Клейнікі Брэсцкага раёна, — сапраўды вельмі прыгожая дзяўчына. І гаворка нават не пра тое, што ў Юлі яркая знешнасць і практычна ідэальныя мадэльныя параметры — рост 177 см, абхват грудзей, таліі і бёдраў — 88-64-96. У дадатак яе любяць камеры — нездарма ж Юля папярэдне атрымала тытул "Міс фота". А яшчэ ў яе непадробна шчыра ззялі вочы і дрыжэла на вуснах разгубленая ўсмешка падчас абвяшчэння вынікаў конкурсу, што дае падставу сцвярджаць: прынамсі, самі ўдзельніцы ніякага дачынення да закулісных гульняў вакол "каралеўскага тытула" не маюць. Новай жа каралеве і другой віцэ-міс — Вікторыі Шавель з пасёлка Чонкі Гомельскага раёна і Настассі Пагранічнай з Жодзіна, а таксама астатнім 25 фіналісткам і ўсім іншым прыгажуням не варта спяшацца зайздросціць, бо іх узнагароды — гэта не толькі букеты кветак, далейшыя конкурсы прыгажосці і буйныя прызы, але і абавязкі, сярод якіх немагчымасць стварыць сям'ю на працягу двух гадоў і павіннасць незалежна ад уласнага жадання суправаджаць першых асоб на шэрагу афіцыйных мерапрыемстваў. Вы ўпэўнены, што менавіта пра гэта марыць кожная беларуская дзяўчына? Я — не.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

# "МІС БЕЛАРУСЬ-2010" ГАТОВА ПАРУШЫЦЬ КАНТРАКТ

**Людміла Якімовіч атрымала прапанову выйсці замуж за некалькі месяцаў да заканчэння кантракта, якія забараняе галоўнай прыгажуні краіны ствараць сям'ю, піша euroradio.fm.**

*"Хто не гатоў пасля магчымай перамогі на два гады адмовіцца ад стварэння сям'і — адразу збірайце чамадан"*, — гэта былі першыя словы, якімі сустрэлі канкурсантак прадстаўнікі канала АНТ, прыгадвае "Міс Беларусь-2008" **Вольга Хіжынкова.**

Вольга Хіжынкова: *"Калі мы прыехалі на першыя кастынгі ў Мінск, то ўсіх нас паставілі перад фактам: "Дзяўчаты, магчыма, нехта збіраецца ў найбліжэйшы час выходзіць замуж. Але калі здарыцца так, што вы пераможаце, то ведайце, што замуж мы вас не пусцім. Выбачайце! Калі ж вельмі хочацца, то збірайце чамаданы і з'язджайце да сваіх каханых"*.

Ад магчымасці стаць каралевай прыгажосці не адмовіўся ніхто.

*"Тым больш гэта добрая магчымасць праверыць пачуцці,* — працягвае гутарку "Міс Беларусь-2010" **Людміла Якімовіч**. — *"Для сапраўднага кахання два гады не перашкода. Тым больш не перашкода, калі хлопец да гэтага не зрабіў прапанову і нешта падштурхнула дзяўчыну пайсці на конкурс, а не замуж"*.

Асобным пунктам у кантракце прапісана забарона цягам двух гадоў нараджаць дзяцей. "Міс Беларусь-2010" не бачыць у гэтым нічога страшнага: пусціў каханы дзяўчыну на конкурс — павінен змірыцца.

*"Калі дзяўчына пайшла на конкурс, значыць, была нейкая дамоўленасць, што гэта не цяпер,* — кажа яна. — *Я, безумоўна, не прапагандую пазашлюбныя адносіны, але ж..."*.

І хваліцца: прапанову пабрацца шлюбам атрымала за некалькі месяцаў да заканчэння двухгадовага абмежавання! А пасля таго, як у мінулую пятніцу перадала карону Юлі Скалковіч, дык увогуле гатова ісці ў ЗАГС хоць заўтра. Праўда (дадае па сакрэце), калі б каханы адважыўся раней, то, магчыма, і не чакала б заканчэння кантракта — *"не расстралялі ж бы"*.

Паводле слоў Вольгі Хіжынковай, больш складана даводзіцца з акружэннем, якое ўвесь час нагадвае дзяўчыне, што ў "дзеўках засядзелася" і "час унукаў бацькам падарыць".

Вольга Хіжынкова: *"Я разумею, што гэта робіцца толькі з самых лепшых меркаванняў, але спрабую супакоіць людзей, што хваляваецца за мяне не варта"*.

Кантракт абмяжоўвае не толькі асабістае жыццё. Любую прапанову наконт працы "Міс Беларусь" павінна... узгадніць з кіраўніцтвам канала. У Вольгі Хіжынковай з гэтай нагоды канфліктаў з АНТ не ўзнікала.

Вольга Хіжынкова: *"Я ведала, дзе мне забаранілі б, дый сама ў такім не пагадзілася б здымацца. Да прыкладу, у рэкламе ніжняй бялізны ці на яе паказе. У такіх паказах дзяўчына не павінна ўдзельнічаць пасля таго, як ёй на галаву надзелі карону!"*

Людміла Якімовіч запэўнівае, што асаблівых перашкод кіраўніцтва тэлеканала не чыніла, і прызнаецца: "непрыстойныя" прапановы паступалі ад... лікёра-гарэлачнага завода (!).

Людміла Якімовіч: *"Нічога сабе Вольга выказалася! Я супрацоўнічаю з кампаніяй "Мілавіца". Калі фігура прыгожая, калі бялізна ўсё ж такі прыкрывае пэўныя часткі цела, то чаму б і не?! Мне вось прапанавалі быць "саветнікам дырэктара лікёра-гарэлачнага завода". Уяўляеце: "Міс Беларусь" і лікёра-гарэлачны завод?!"*.

Паводле слоў дзяўчат, кантракт з АНТ, хоць і абмяжоўваў асабістае жыццё, магчымасць зарабіць даваў.

Вольга Хіжынкова: *"Тэлеканал выплачваў ганарар, які дазваляў забяспечваць маё існаванне на той момант. Плюс нейкая праца, якую прапаноўвалі. Мне хапала"*.

З АНТ Вольга развіталася некалькі гадоў назад і зараз працуе піяршчыкам на прыватнай фірме. Пры гэтым працягвае ўдзельнічаць у паказах і здымках.

А Людміла Якімовіч рыхтуе... першы альбом у стылі электрапоп, выхад якога прызначаны на ліпень.

Ну а тое, што ніякія штрафныя санкцыі за парушэнне "сямейных" артыкулаў кантракта прыгажунь не прадугледжаны, пацвярджае Еўрарадыё і прэс-сакратар тэлеканала АНТ Таццяна Курбат. Нават выплачаны 50-мільённы ганарар не забіраюць. Адзінае, на "Міс свету" ў такім выпадку замест каралевы едзе яе намесніца — "першая віцэ-міс". З ёй таксама падпісваецца адпаведны двухгадовы кантракт.

**ЗМІЦЕР ЛУКАШУК**

# НАШЫ ЧАРНУШКІ З ВЕНЕРАМІ І КІСЛОТНЫЯ ДАЖДЖЫ

Але яны неабходныя для выжывання нацыі, піша "Звязда".

Мы звыкла лічым крыніцай загазаванасці атмасферы аўтамабілі, заводы, хімічную прамысловасць, але рэальнасць падносіць усё новыя сюрпрызы. Так, ужо даўно навукоўцы заяўляюць, што асноўная крыніца шкодных газаў выглядае зусім інакш, чым мы прывыклі думаць. Яны сцвярджаюць, што сёння больш за ўсё навакольнаму асяроддзю шкодзяць... статкі кароў.

**ДРЭННАЯ НАВІНА:**
## КАРОВЫ ВЫКЛІКАЮЦЬ ЭКАЛАГІЧНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

Нечакана? Яшчэ б, але факты — рэч упартая. Так, згодна з дакладам харчовай і сельскагаспадарчай арганізацыі ААН, буйная рагатая жывёла наносіць экалогіі Зямлі больш шкоды, чым аўтамабілі і самалёты, разам узятыя.

Каля 1,5 мільярда кароў, якія маюцца зараз на нашай планеце, прама або ўскосна адказныя за выдзяленне 18% усіх парніковых газаў у свеце. Гэта больш, чым выкіды ад грамадскага транспарту.

Жывёлагадоўчы сектар выпрацоўвае вялікую колькасць метану (37% ад агульнага аб'ёму), які выклікае парніковы эфект; а таксама аміяку (прыводзяцца звесткі, што дзве траціны аміяку, які трапляе ў атмасферу ад кароў) — а ён з'яўляецца галоўнай прычынай кіслотных дажджоў. Метан змяшчаецца ў каровінай адрыжцы, а яшчэ ў ёй ёсць закіс азоту — так званы «вясёлы» газ, які паглынае сонечную энергію ў 300 разоў больш актыўна, чым вуглекіслата.

Французскі даследчык Бенуа Леге скрупулёзна падлічыў, што праз рот французскія каровы штогод вывяргаюць у паветра 26 млн тон шкоднага газу, і яшчэ 12 млн тон (столькі ж за год выкідваюць усе нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы Францыі) трапляе ў навакольнае асяроддзе з прадуктаў іх жыццядзейнасці.

Толькі не трэба думаць, што навукоўцы знайшлі «ахвярнага казла», на якога спрабуюць зваліць усе экалагічныя праблемы. У любым выпадку адказнасць ляжыць, натуральна, не на Зорках і Пяструхах, а на чалавеку. Уся справа ў тым, што ў свеце імкліва расце ўжыванне мяса, бо краіны, якія развіваюцца (у іх, між іншым, сканцэнтравана значная частка сусветнага насельніцтва) пераходзяць на лад жыцця развітых краін, у прыватнасці, у пытаннях рацыёну. Гэта значыць, што расце пагалоўе кароў. Эколагі папярэджваюць, што да 2050 года шкода экалогіі, якая наносіцца гэтымі жывёламі, можа павялічыцца ў 2 разы, бо ў наступныя дзесяцігоддзі людзі стануць разводзіць яшчэ больш буйной рагатай жывёлы.

**ДОБРАЯ НАВІНА:**
## БЕЛАРУСІ ЭКАЛАГІЧНАЯ КАТАСТРОФА, СПРАВАКАВАНАЯ КАРОВАМІ, НЕ ПАГРАЖАЕ

— У нашай рэспубліцы пагалоўе кароў зараз вагаецца ў межах 2,3 млн галоў. У грамадскім сектары іх колькасць складае дзесьці 2,2 мм, у прыватным — 100-150 тыс. кароў, — распавядае першы намеснік генеральнага дырэктара Навукова-практычнага цэнтра па жывёлагадоўлі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі акадэмік Іван ШАЙКО. — На асабістых падворках колькасць кароў пастаянна скарачаецца. Гэта звязана ў першую чаргу са старэннем насельніцтва, асабліва сельскага. Па-другое, у краіне цяпер хапае мяса-малочнай прадукцыі, каб задаволіць патрэбы людзей. У вёскі яна таксама завозіцца ў дастатковай колькасці — і ў крамы, і аўтакрамамі. Больш за палову малака і малочных прадуктаў, якія выпрацоўваюцца ў нашай краіне, мы экспартуем.

Беларусі экалагічная катастрофа, справакаваная каровамі, на думку Івана Шайко, не пагражае. А вось у іншых краінах, такіх як Данія, Галандыя, дзе насельніцтва ў 2-4 разы больш, чым у нашай краіне, і пагалоўе жывёлы таксама большае у 4-4,5 раза, у той час як займаная краінай плошча меншая, чым плошча Беларусі, буйная рагатая жывёла, сапраўды, стварае пэўныя экалагічныя праблемы.

— У нас жа зараз транспартныя выкіды вышэйшыя, чым ад буйной рагатай жывёлы. Для Беларусі каровы — толькі на карысць. Яны неабходны нам, каб магла выжыць нацыя, — гаворыць акадэмік Іван Шайко.



*Кароўкі – гэта ўсё роўна наша ўсё*

**СВЯТЛАНА БУСЬКО**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 10.05.12
Тыраж 299 экзэмпляраў